

# Мазырскія Навіны

Гавары - і цябе пачуюць

студзень, 2013

www.mozyrcivil.org

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ

# Мазыр. Вынікі 2012 г.

***Аб працы праваабаронцы ў рэгіёне, праблемах райцэнтра і яго жыхароў, абароне правоў грамадзян, спробах уплываць на мясцовыя ўлады, дапамозе людзям у самаарганізацыі для вырашэння сваіх праблемаў, выніках 2012 году гутарка з Уладзімірам Целяпуном з Мазыра.***



*Уладзімір Целяпун*

***Якія важныя падзеі, з пункту гледжання Вас, як праваабаронцы, адбыліся ў Мазыры ў 2012 годзе?***

*2012 год для мяне, як для сябра грамадскага аб’яднання “Праваабарончы цэнтр “Вясна” адметны тым, што гэта год нашай дзейнасці без нашага кіраўніка, сябра Алеся Бяляцкага. “Вясна” годна прыняла гэты выклік, існуючага на Беларусі, рэжыму. Арганізацыя працягвае сваю дзейнасць па абароне правоў грамадзян, нягледзячы на канфіскацыю цэнтральнага офіса ў Менску, пераслед і ціск на праваабаронцаў.Арышт і пазбаўленне волі Алеся Бяляцкага, кіраўніка “Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека, выклікала ў свеце вялікую хвалю салідарнасці і падтрымку палітычных вязняў на Беларусі, з боку міжнародных структураў и палітыкаў, згуртавала праваабаронцаў краіны.*

*Значнай падзеяй мінулага году я лічу і правал спробы ўладаў натравіць актывістаў праўладных прафсаюзаў на палітычных актывістаў, апанентаў рэжыму. Так з’явіліся судовыя позвы некаторых р’яных прафсаюзных актывістаў буйных прадпрыемстваў да лідараў апазіцыі і грамадзянскіх ініцыятываў. Не абмінуў гэты вірус і наш горад. Работніца Мазырскага НПЗ Марына Цыблієнка падала ў суд на палітыка Віктара Івашкевіча. На гэтым жа прадпрыемстве рэпрэсіўнаму ціску сталі трапляць структуры Незалежнага прафсаюза. Ідэялагічныя кіраўнікі прадпрыемстваў, як правіла, былыя супрацоўнікі КДБ, МУС, пераносяць свае метады правакацыі, запалохванняў на працу з працоўнымі калектывамі на прадпрыемствах.*

*Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу паказалі, што ўлада зрабіла ўсё магчымае, каб дыскрэдытаваць саму сутнасць выбараў. Таму і давер людзей да іх становіцца ўсё меншым. Большасць выбаршчыкаў ня ведае “сваіх выбранцаў”. Ні, так званым, “гарантам Канстытуцыі” , ні ўладамі на мясцовым узроўні нічога не робіцца для развіцця ў краіне палітычнай сістэмы, стварэнне ўмоваў для дзейнасці і развіцця палітычных партыяў. Пазбаўленне структураў палітычных партыяў юрыдычных адрэсаў, не магчымасць арэнды офісаў прывяло да юрыдычнай ліквідацыі гэтых структураў. Таму іх удзел у палітычным жыцці краіны вельмі абмежаваны. Выбары – гэта адзіная магчымасць хаця б пяць хвілін выступіць па ТБ, каб людзі пабачылі новыя твары, пачулі іншае меркаванне , ў агітацыйных матэрыялах распавесці пра іншае бачанне развіцця краіны.Выбары перасталі быць ВЫБАРАМ людзей, а ператварыліся ў кампаніі прызначэння дэпутатаў усіх узроўняў.*

*Падзея “Канец света па-мазырскі” ў снежні 2012 года. Па сутнасці, гэтая лякальная рэгіянальная тэхнагенная катастрофа паказала, як лёгка пасеяць панічныя настроі сярод людзей, асабліва жыхароў горада.*

*Што найбольш нязручным, пад час аварыі, было для жыхароў Мазыра?*

1. *Зачыніліся крамы. У тых крамах, што працавалі хутка была раскуплена пітная і мінеральная вада. Гэта выклікала паніку. Асабліва сярод сем’яў дзе ёсць немаўляты і малыя дзеці.*
2. *Перабоі з сувяззю. Мабільная сувязь (МТС, Вэлкам) пачала адключацца. У любым выпадку (адключэнне, каб не распаўзаліся чуткі, альбо як вынік аварыі) выклікала ўпэўненасць, што аварыя сур’ёзная і надоўга.*

Працяг на стар. 2, 3

*3. Адсутнасць афіцыйнай, аператыўнай, аб'ектыўнай інфармацыі.*

*Каб пазбегнуць такіх праблемаў у наступны раз (альбо зрабіць іх мінімальнымі) магчыма прадугледзець спосаб інфармавання жыхароў. Адным з такіх спосабаў магла б стаць рассылка СМС-абвестак з кароткім інфармаваннем грамадзян.*

*Хаця б у вялікіх крамах (Еўраопт, Карзінка, Родная старана і інш.) трэба ўсталёўваць генератары, каб забяспечыць іх працу ў такіх аварыйных выпадках. Гэта можа быць зроблена праз МЧС, альбо абавязаць уласнікаў набыць і ўсталяваць іх на выпадак ЧС.*

**У якіх працэсах (судовых, выбарах, абароне правоў чалавека) вы удзельнічалі ў 2012 годзе?**

*Па-першае - гэта падтрымка грамадскіх актывістаў. Прайшлі ўсе стадыі судовых абскарджванняў па "маўклівым" акцыям і пададзена скарга ў Камітэт па правах чалавека ААН*

*Рыхтуецца скарга ў Камітэт ААН па правах чалавека Уладзіміра Целяпуна на забарону пікетаў у 2011 годзе ў падтрымку Алеся Бяляцкага і ўсіх палітвязняў Беларусі. Працягваюцца судовыя абскарджванні па забароне пікетаў: - скарга на рашэнне і дзеянне адказнай асобы дзяржаўнага органа на ушчамленне правоў і законных інтарэсаў грамадзян ад сябра АГП Уладзіміра Рэпка. Скарга пададзена на імя в.а. старшыні Гомельскага абласнога суда Анатоля Тозіка ў парадку нагляда за ўжо адбыўшыміся судовымі рашэннямі суда Мазырскага раёна і Судовай калегіі Гомельскага абласнога суда. Сябры АГП планавалі правесці пікет у мэтах актуалізацыі праблемы адсутнасці ў Беларусі свабодных і сумленных выбараў, праінфармаваць грамадзян аб кампаніі «За честные выборы без Лукашенко». Аднак Мазырскі райвыканкам забараніў сябрам палітычнай партыі публічна выказаць сваё меркаванне.*

*На такім жа ўзроўні знаходзіцца і мая скарга на адмену рашэння Мазырскага райвыканкама №1202 ад 15.09.2011 г. "Аб масавых мерапрыемствах".*

Але я хачу засярodзіць ўвагу, што дзейны рэжым на Беларусі пазбаўляе права ўсіх грамадзянаў Беларусі мець права публічна выказаць сваё меркаванне. Права, як такога, па сутнасці. Паглядзіце арт. 35 Канстытуцыі: "Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацыі і пікетавання … гарантуюцца дзяржавай. …". Свабода гарантуецца, але права адсутнічае… Калі не маеш права, гарантаваная свабода застаецца толькі дэкляцыяй. Таму і законы, і рашэнні, якія павінны прапісваць дакладную працэдуру нашага права на свабоду… такія заблытаныя і двухсэнсоўныя, каб мы не маглі гэтым правам скарыстацца.

Па-другое. Пад час выбараў у ПП НС РБ сябры і валанцёры Вясны прынялі актыўны ўдзел у кампаніі па назіранню за выбарамі "Праваабаронцы за свабодныя выбары". У сувязі з тым, што арганізацыя ліквідаваная і не мае магчымасці самастойна вылучаць сваіх прадстаўнікоў для назірання, прыйшлося вылучацца ад іншых арганізацыі і шляхам збора подпісаў ад грамадзян. На тых выбарчых участках, дзе былі назіральнікі кампаніі "Праваабаронцы за свбодныя выбары" яўка выбаршчыкаў была з цяжкасцю нацягнута чуць болей 50%. Дзеля гэтага перад асноўным днём галасавання 22 верасня і ў дзень выбараў прыйшлося сакратару акруговай выбарчай камісіі Веранікі Байковай асабіста наведваць гэтыя участкі, ўчыняць там верхал з запалохваннем міліцыяй і выдаленнем назіральнікаў з выбарчых участкаў. Але напачатку датэрміновага галасавання складвалася ўражанне, што пасля поўнага захопу сваімі прызначэнцамі выбарчых камісіяў, адсутнасці рэальных апазіцыйных кандыдатаў, дадзена каманда правесці "выбары" з патрабаваннямі Выбарчага кодэкса. Што здарылася? Што перашкодзіла? Паталагічная схільнасць да фальсіфікацыяў пастаянных членаў выбарчых камісіяў, якія ўжо па іншаму працаваць няздольныя і ня могуць!? Людзі не пайшлі на выбары. Рэальная яўка выбаршчыкаў была ў межах 40 – 48 %.

**Ці ўдалося атрымаць нейкія перамогі на мясцовым узроўні ў 2012 годзе.**

*30 траўня 2012 года суд Мазырскага раёна у складзе судзі Загароўскай В.А., сакратары Брэль Л.І., пры ўдзеле пракурора Катвіцкай В.В.часткова задаволіў зыск работніц Камунальнага жыллёвага унітарнага прадпрыемства "Мазырскі райжылкамгас" да гэтага прадпрыемства аб кампенсацыі маральнай шкоды за незаконнае звальненне з працы. Работніцы запатрабавалі выплаціць каменсацыю за маральную шкоду ў памеры 5 000 000 рублёў.*

*Суд пастанавіў: - КЖУП "Мазырскі райжылкамгас" выплаціць Вользе Целяпун і Лене Валошка кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 1 000 000 рублёў. Раней ім і яшчэ двум работніцам было выплачана выходнае пасобіе ў памеры двухтыднёвага заробка.*

*Гэта адбылося пасля трэццяга паседжання суда. (Усяго адбылося тры паседжанні – 18, 22 і 30 траўня).*

*Станоўчым вынікам можна лічыць практыку " Адкрытых зваротаў" да мясцовай улады з прыкладаннем фотаздымкаў па агульным праблемам жыхароў вуліцаў, дамоў з шырокім інфармаваннем грамадзян праз усе магчымыя сродкі інфармацыі, ў тым ліку і праз інтэрнэт, малатыражныя бюлетэні грамадскіх ініцыятываў. Адрамантавана вуліца Заслонава, аднак амаль нічога не зроблена па вуліцы Гастэла. Магчыма нешта будзе зроблена там ў 2013 годзе.*

*Аднак лічу не самаму звяртацца да адпаведных структураў па вырашэнні праблемных пытанняў, а дапамагчы самім грамадзянам праяўляць ініцыятыву па адстойванні сваіх правоў на годнае існаванне і навакольнае асяродзе. Так жыхары той жа вуліцы*



*Заслонава, якія жывуць у канцы гэтай вуліцы яшчэ ў 2011 годзе сабралі больш за 20 подпісаў за прывядзенне добраўпарадкавання гэтага ўчастка вуліцы пасля правядзення газафікацыі. Жыхары дома №34 па вул. Палескай звярнуліся за дапамогай на тэлеканал "Мазыр". Быў зняты і паказаны сюжэт па затапленні пад'езда і падвала дома пасля дажджу.Паступіў зварот аб дапамозе жыхароў вул. Маякоўскага, што знаходзіцца ў мікрараёне "Чыгуначны".*

*Што мне не спадабаецца ў гэтых павярхоўных рамонтных аўральных дзеяннях уладаў – гэта не выкананне, альбо адсутнасць інжынерных рашэнняў існуючых праблемаў. Шмат праблемаў для жыхароў Мазыра вынікае пасля навальніц. Улічваючы ландшафт Мазыра за столькі год існавання горада такое рашэнне павінна быць: - куды і як павінна сцякаць вада пасля дажджу, гразы, навальніц?*

**Выкажыце свае меркаванне - ці змянілася нешта ў 2012 годзе, маецца на ўвазе - развіцце грамадзянскай супольнасці, свядомасць людзей, ці абдыўся нейкі прагрэс у гэтым накірунку, ці наадварот - рэгрэс? Якія праблемы найбольш актуальныя для жыхароў Мазыра? Ці есць сярод праблем мясцовых людзей такія, як палітычныя і грамадзянскія свабоды, ці большасць жыхароў райцэнтра ўсе-такі заклапочаны толькі коштамі ды дробнымі "мяшчанскімі" праблемамі кшталту "дзе што уварваць, ухапіць, сцягнуць, паймець для сябе"?**

*Народная прымаўка: - рыба гніе з галавы, аднак чысціць яе з хваста… Складваецца такое ўражанне, што ўлады не асабліва зацікаўленыя ў павышэнні заможнага жыцця нашых грамадзян. Бедныя лепш падаюцца кіраванню… Павышаючы заробак (ужо каторы раз да 500 даляраў), трэба ўлічваць , што і павысяцца патрабаванні людзей да якасці свайго жыцця, яго умоў і асяродка. Мясцовыя ўладныя структуры да гэтага не гатовыя. Павінна быць і ініцыятыва саміх грамадзян. А што грамадзяне назіраюць… Усё пачынаецца з ВЫБАРАЎ! Выбарчыя кампаніі і паказваюць выбаршчыкам, грамадзянам краіны праз дзеянні членаў выбарчых камісіяў, адносіны ўладаў да ЗАКОНА. Людзі жадаюць мець сваіх выбраных прадстаўнікоў у гэтую самую Ўладу. А не прызначэнцаў… Ігнаруючы Закон у працэсе выбарчай кампаніі прадстаўнікамі ўлады, ці магчыма чакаць і патрабаваць ад грамадзян іншага стаўлення да Закона?*

*Уладная вертыкаль рэжыма мэтадычна і мэтанакіравана зачышчае палітычнае поле ад кожнага, хто праяўляе сваю актыўную грамадзянскую пазыцыю адметную ад пазыцыі ўладаў.*

*Незалежна ад займаемай пасады, альбо ты галоўны спецыяліст, альбо грузчык, ад працоўнага стажа на прадпрыемстве, калі ты маеш сваё меркаванне на сітуацыю ў краіне, тым больш выступаеш супраць існуючага рэжыма, кантракт з табой працягнуты ня будзе. Кабальная кантрактная сістэма і створаная для ізаляцыі найбольш актыўных грамадзян ад кантакта з працоўнымі калектывамі на прадпрыемствах.*

*Дырэктары, нават з міністрамі… людзі бачаць што Ён з імі робіць і як абыходзіцца публічна. І да якой глыбіні абразы свайго гонару, сумлення яны будуць усё гэта цярпець? Аўтарытэта самой уладзе ўсіх узроўняў такія паводзіны, т.з. кіраўнікоў, не дадаюць. Вынік – масавы выезд на працу ў Расію, ў іншыя краіны самых працаздольных і прафесійных работнікаў і спецыялістаў, … Застануцца п'яніцы, пенсіянеры, мянты і … апазіцыянеры. Альбо частка з іх…*

/**www.mozyrcivil.org**

*Больш інфармацыі па праблемах Мазыра можна атрымаць на сайтах:*
**www.mozyrcivil.org**
**www.spring96.org**




# Каждая четвертая игрушка в Беларуси потенциально опасна

**О содержании вредных веществ в игрушках свидетельствуют последние исследования детских товаров. Общественные организации требуют, чтобы государство ужесточило контроль за производством и импортом игрушек, а потребителям советуют внимательно относиться к покупкам.**

Несколько месяцев назад в магазинах и на рынках Беларуси, России, Казахстана, Кыргызстана, Украины, Армении, стран Восточной Европы, Кавказа и Центральной Азии (ВЕКЦА) были закуплены партии детских товаров, в основном игрушек. Их отправили на исследование в Армению, где в одной из лабораторий при помощи портативного рентгенфлуоресцентного анализатора определяли уровень содержания шести тяжелых металлов: свинца, мышьяка, ртути, сурьмы, кадмия и хрома.

Из 569 образцов из разных стран в 164 (29%) содержится, по крайней мере, один тяжелый металл в концентрациях, превышающих «уровень озабоченности» — норматив, регулирующий содержание тяжелых металлов в почве.

При сравнении с установленными пределами содержания этих токсичных металлов в почвах 18% протестированных товаров содержали свинец в концентрациях выше установленного предела, 3% — ртуть, 8% — мышьяк, 13% – сурьму.

— Почва лишь в исключительных случаях попадает в организм ребенка, например, через рот, в то время как с игрушками ребенок проводит достаточно много времени. Следовательно, он может подвергаться воздействию тяжелых металлов, вдыхая пыль с их поверхности или когда берет их в рот, — замечает сотрудник программы по экологически дружественному образу жизни Центра экологических решений **Дарья Чумакова**. —Товары для детей должны быть, по крайней мере, столь же безопасны для ребенка, как и почва, по которой он ходит.

Ольга АСТАПОВИЧ

**www.zautra.by**

# Валянцін Стэфановіч: "У 2012-м мы не проста адбіваліся ад нападак - спрабавалі дзейнічаць эфектыўна"



Валянцін Стэфановіч

***Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" дзеліцца прафесійнымі ацэнкамі адыходзячага году. Адзначаючы праблемы грамадзянскай супольнасці, пагаршэнне стасункаў уладаў у галіне правоў чалавека з аўтарытэтнымі міжнароднымі арганізацыямі, Валянцін Стэфановіч падкрэслівае, што асноўная задача праваабаронцаў і на наступны год застаецца ранейшай – вызваленне палітвязняў.***

***Якія выклікі паўсталі перад грамадзянскай супольнасцю Беларусі цягам году?***

**Стэфановіч:** Кажучы пра сітуацыю з правамі чалавека, я адзначаю, што яна стабільна кепская. У пэўным сэнсе сітуацыя стабілізавалася, бо мы не можам сказаць, што ў гэтым годзе быў распачаты нейкі новы віток рэпрэсіяў, але і не спынены папярэдні. Наступствы падзеяў 19 снежня 2010 году, палітыка ўлады, скіраваная на рэпрэсіўныя метады кіравання, кантролю над грамадзянскай супольнасцю і ўвогуле над грамадствам – усё гэта застаецца.

Сярод новых выклікаў можна назваць узмацненне ціску на незалежныя прафсаюзы і ўвогуле наступ на правы працоўных, паколькі мы былі сведкамі шэрагу сацыяльных пратэстных акцыяў, лакальных страйкаў, сітуацый са звальненнямі з працы актывістаў прафсаюзнага руху і абаронцаў правоў працоўных. І завершылася усё гэта нашумелым Дэкрэтам № 9, які фактычна ўвёў прымусовую працу ў краіне, пагоршыўшы сітуацыю з кантрактнай сістэмай найму на працу. Паводле Канстытуцыі ў нас права на працу – гэта права, а не абавязак.

***Як можаце ахарактарызаваць стасункі беларускіх уладаў з міжнароднымі структурамі ў гэтым годзе?***

**Стэфановіч:** Найперш я б засяродзіў увагу на стасунках з міжнароднымі арганізацыямі, сябрам якіх з'яўляецца Беларусь (яна добраахвотна ўвайшла ў гэтыя арганізацыі і добраахвотна ўзяла на сябе абавязацельствы ў галіне правоў чалавека). Гэта ААН і АБСЕ. Тут Рэспубліка Беларусь публічна дэманструе, я б сказаў, пагарду да ўласных абавязацельстваў.

Як бачым, улады адмаўляюцца ад супрацоўніцтва з Камітэтам ААН па правах чалавека па шэрагу індывідуальных зваротаў беларускіх грамадзянаў – фактычна дэманструецца непрызнанне КПЧ насуперак першаму Факультатыўнаму пратаколу да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Беларусь ратыфікавала, прызнаўшы такім чынам кампетэнцыю Камітэта. Тое ж датычыцца і спецдакладчыка ААН па Беларусі, прызначанага вышэйшым кіруючым органам – Радай па правах чалавека. Беларусь заявіла, што не прызнае гэты мандат і спецдакладчык пакуль не быў запрошаны ў краіну, як і шэраг тэматычных спецдакладчыкаў – па адвольных затрыманнях, незалежнасці судоў, абароне праваабаронцаў, камітэта супраць катаванняў. Такім чынам дэманструецца грэблівае стаўленне да ўсіх кантрольных механізмаў ААН, чыю кампетэнцыю Беларусь добраахвотна прызнала.

Адносна АБСЕ Лукашэнка ўвогуле заявіў, што гэта арганізацыя непатрэбная і яе варта распусціць. Хоць гэта адна з нешматлікіх міжнародных арганізацыяў, у якой Беларусь мае сяброўства. Цягам году мы чулі шмат крытыкі на адрас АБСЕ. І найперш гэта было звязана з місіяй па назіранні за выбарамі ў Беларусі, што стандартаў свабодных выбараў увогуле ледзь не існуе. Хоць ёсць Капенгагенскае пагадненне 1990 году пра стандарты правядзення выбараў, якое ўхвалілі ўсе краіны АБСЕ, у тым ліку Беларусь. Такія заявы ўладаў сведчаць пра тое, што Рэспубліка Беларусь не жадае супрацоўнічаць з міжнароднымі арганізацыямі, сябрам якіх яна з'яўляецца.

***Усё ж ці былі ў 2012-м годзе нейкія станоўчыя моманты, якія праваабаронцы маглі б адзначыць у сваёй працы?***

**Стэфановіч:** Што тычыцца "Вясны", то 2012 год быў даволі цяжкім для нас. Ціск на арганізацыю працягваўся ў розных формах – гэта і абмежаванні на выезд з краіны, якія цягнуліся пяць месяцаў, і выклікі сябраў Рады арганізацыі ў КДБ, фінансавыя праверкі. Год для нас скончыўся стратай офіса, які быў сканфіскаваны ў выніку справы Алеся Бяляцкага. Але мы не проста адбіваліся ад гэтых нападак, а спрабавалі дзейнічаць эфектыўна.

Я, напрыклад, вельмі задаволены ўдзелам "Вясны" ў назіранні за парламенцкімі выбарамі ў межах кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары". У гэтым назіранні была задзейнічана фактычна ўся арганізацыя, нашыя рэгіянальныя аддзяленні, і была зроблена досыць вялікая праца. Мне вельмі прыемна, што якасць нашых аналітычных дакументаў даволі высока ацэнена экспертамі, у тым ліку і міжнароднымі, і шмат што з гэтых дакументаў было карысным для назіральнай місіі АБСЕ, з якой мы былі ў шчыльным кантакце. І для мяне вельмі важна, што ў такіх складаных умовах арганізацыя захавала сваю дзеяздольнасць і фактычна ніводная з нашых праграм не была спыненая – і школы па правах чалавека праводзілі, і за выбарамі назіралі, і дапамогу рэпрэсаваным аказвалі. Спадзяюся, што і надалей мы будзем так працаваць.

Хачу адзначыць, што не толькі "Вясне" было складана. У гэтым годзе была ліквідаваная праваабарончая арганізацыя "Платформа", аказваўся ціск і на іншых суб'ектаў грамадзянскай супольнасці. У тых жа спісах невыязных сярод 17-ці чалавек шмат хто быў з нашых калегаў – Андрэй Бандарэнка, Алег Гулак, Гары Паганяйла, Жанна Літвіна.

***Ці бярэцеся рабіць прагнозы на наступны год?***

**Стэфановіч:** Канешне, цяжка штосьці прагназаваць. Але ў "Вясны" шмат іншых спраў, мы плануем аднавіць працу менскага офіса ў поўным аб'ёме. Ці стане 2013-ты годам здзейсненых надзеяў – найперш на вызваленне нашых суграмадзянаў, якія знаходзяцца за кратамі па палітычных матывах – паглядзім. Ад нас таксама шмат што залежыць у гэтай сітуацыі, хоць, на жаль, і не ўсё. Але вызваленне палітвязняў для нас застанецца важнейшай задачай.

http://spring96.org/be/news/60113

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com